НАША СВАБОДА
№114(201) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

19 КАСТРЫЧНІКА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Спадзяванні на Ісуса Хрыста



Фота IREX/ProMedia

На прэс-канферэнцыі, што адбылася 17 кастрычніка па гучнай Курапацкай справе, журналістам была прадстаўленая заява грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыяла «Курапаты». У«Адкрытым лісце да міжнароднай супольнасці» падрабязна распавядаецца, што з пашырэннем кальцавой дарогі, якая будзе закранаць межы мемарыяльных могілак (самы танны праект), выканаўцамі гэтага паспешліва плана (распачатага без грамадскага абмеркавання і без папярэдніх археалагічных даследаванняў і без нагляду з боку спецыялістаў), парушаюцца патрабаванні Закона РБ «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны». Як вядома, работы на пэўны час замарожаны дзякуючы намаганням грамадскіх арганізацыяў. У Курапатах працуе група археолагаў.

Заканчэнне на стар.3

## Фарс з пошукамі

Органамі ўнутраных справаў Беларусі праверялася інфармацыя аб тым, што былы міністр унутраных справаў Юрый Захаранка можа знаходзіцца ў Германіі. пра гэта на прэс-канферэнцыі 18 кастрычніка паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення крымінальнага вышуку МУС рэспублікі палкоўнік міліцыі Валянцін Патаповіч. Нагадаем: інфармацыя аб тым, што Захаранку, які знік у траўні 1999 года, нібыта бачылі ў ФРГ, з'явілася напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Паводле словаў Патаповіча, «пакуль пацверджання гэтым звесткам няма». Пры гэтым ён адзначыў, што вышук беларускіх грамадзянаў, якія могуць знаходзіцца на Захадзе, істотна абцяжараны: «калі асоба, якая знаходзіцца там, не жадае паведаміць пра сябе, паліцыі замежных краінаў нам не паведамляюць звесткі аб тым, дзе яна знаходзіцца». Патаповіч паведаміў, што следства па справе аб знікненні аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага мела інфармацыю, што ён можа знаходзіцца ў Асецыі. Туды, паводле яго словаў, выязджалі беларускія спецыялісты, аднак і гэтая інфармацыя не пацвердзілася.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## Лукашенко не доверяет вкусу академиков

Декретом № 25 от 17 октября 2001 г. «О повышении роли науки и реформировании Национальной академии наук Беларуси» Александр Лукашенко, в частности, установил, что президент Национальной академии наук Беларуси **назначается на должность и освобождается от должности** президентом Республики Беларусь; состав президиума Национальной академии наук Беларуси **утверждается** президентом Республики Беларусь из числа ученых.

Согласно ст. 6 Закона «О Национальной академии наук Беларуси» все акты законодательства по вопросам развития науки в Республике Беларусь принимаются с учетом мнения академии. Деятельность академии осуществляется на основе сочетания принципов государственного регулирования научной деятельности и научного самоуправления.

Общее собрание Национальной академии наук Беларуси в соответствии со ст. 11 Закона является высшим органом научного самоуправления в академии. Общее собрание **избирает** президиум академии в порядке, определяемом уставом академии. Президент академии **избирается** общим собранием из числа академиков и **утверждается** в должности президентом Республики Беларусь.

Декрет № 25 от 17 октября 2001 г. вступил в силу со дня его подписания и является временным.

Статья 101 Конституции Республики Беларусь наделяет правом президента издавать временные декреты, имеющие силу закона только **в силу особой необходимости**. Однако такая необходимость отсутствует и в обосновании принятия декрета не указана.

Принятие временных декретов в период парламентской сессии свидетельствует о продолжающемся неуважении президентом Законодательной власти.

Декретом № 25 президент расширил свои полномочия, перечисленные в ст. 84 Конституции, хотя в силу ч. 2 ст. 101 Конституции он не в праве издавать декреты, предусматривающие изменение и дополнение Конституции.

РОО «Белорусский Хельсинкский комитет» считает издание указанного декрета открытым вмешательством в деятельность высшей государственной научной организации, ликвидацией принципа научного самоуправления.

**Пресс-служба БХК**

## Заўтра рэзка пахаладае

Пачынаючы з 20 кастрычніка начная тэмпература паветра ў Беларусі панізіцца да 5 градусаў марозу, а дзённая – да 3-8 градусаў цяпла. Прычым, магчымы ападкі ў выглядзе снегу.

# Лукашэнка – саўдзельнік бін Ладэна?
## або Саўдзельнік злачынства

### Беларусь пастаўляе зброю тэрарыстам і бандыцкім рэжымам

Рэжым Аляксандра Лукашэнкі збіраецца пастаўляць на працягу бліжэйшых шасці месяцаў зброю агульным коштам 600 мільёнаў долараў для арабскіх краінаў, Палестыны і албанскім экстрэмістам. Дзе яшчэ знойдзе сабе такі ўжытак беларуская вайсковая тэхніка? Цэнтральнае разведвальнае ўпраўленне падазрае, што Беларусь таксама ўдаецца любымі шляхамі, у тым ліку і пазазаконнымі, прадаваць узбраенне тэрарыстам і гэтак званым «бандыцкім» рэжымам. Маючы ў распараджэнні велізныя арсеналы, што засталіся ў спадчыну ад Савецкай Арміі, і тэхналогіі, што дазваляюць вырабляць ядзерную зброю, Лукашэнка праз колькі гадоў зможа падпітваць канфлікты ў свеце.

### Імперская спадчына

Пасля распаду Савецкага Саюза Беларусі спатрэбілася скарачаць запасы ўзбраенняў, якія значна перавышалі патрэбы дзесяцімільённага народа.

Па словах старшыні Камісіі па справах нацыянальнай бяспекі Вярхоўнага Савета Мечыслава Грыба, запасы звычайных узбраенняў мусілі быць скарочаныя практычна напалову. Пасля падпісання ў 1992 годзе пагаднення ў Ташкенце беларуская армія магла захаваць толькі 1.800 танкаў, 2.600 браніраваных машынаў – БМП і БТР, 1.615 артылерыйскіх гарматаў, 260 баявых самалётаў і 80 верталётаў. З гэтага да 85% магло спраўна працаваць. Астатняе мусіла быць дэмантаванае або знішчанае.

Але адразу пасля свайго абрання прэзідэнтам у 1994 годзе Лукашэнка забараніў знішчэнне вайсковай тэхнікі. Замест таго, каб выкідаць дарагое абсталяванне на сметнік, ён пачаў прапаноўваць зброю дыктатарскім рэжымам, а таксама тэрарыстычным групам у Паўднёвай Амерыцы, на Балканах, у Афрыцы і на Блізкім Усходзе.

### Іракскі партнёр

У тым жа 1994 годзе Беларусь прадала Таджыкістану аўтаматы і бронемашыны. Гэта не парушала міжнародных дамоваў, але ж частка гэтага ўзбраення імгненна патрапіла ў рукі афганскіх баевікоў і таджыкскіх маджахедаў.

Заканчэнне на стар.3

# Парада апазіцыі

*У Партугаліі я адчуў, як карысна часам выязджаць за межы Беларусі — дзеля таго, каб паглядзець на сітуацыю тут звонку. Асабліва добра было аналізаваць беларускую сітуацыю на паседжанні Пастаяннага камітэта Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў шыкоўным гатэлі «Парк Цэзара» на гольф-курорце Пэнья-Лонга каля старажытнага горада Сінтра – былой рэзідэнцыі партугальскіх каралёў.*

Адразу скажу, што ні гольфа, ні курорта, ні Сінтры я не бачыў – часу не было. Паразмаўляўшы там з міністрам замежных справаў Партугаліі Жамэ Гамай, які ў 2002 годзе будзе дзейным старшынём АБСЕ, з некаторымі членамі ПА АБСЕ (гэта значыць, не з беларусамі) і ўжо амаль суайчыннікам Хансам-Георгам Вікам, я прыйшоў да высновы, што пасля прэзідэнцкіх выбараў 9 верасня аб'яднаная беларуская апазіцыя мусіць альбо спыніць сваё існаванне, цалкам пагадзіўшыся з Канстытуцыяй цяперашняга рэжыму, альбо згуртавацца вакол Вярхоўнага Савета 13-га склікання, якому трэба надаць новы імідж, імпульс і імпэт.

### Ці трэба зараз займацца пахаваннем ВС-13?

Старшыня ПА АБСЕ Адрыян Севярын распачаў паседжанне ў Пэнья-Лонзе заявай пра тое, што «мандат 13-га Вярхоўнага Савета скончыўся ў студзені гэтага года, і гэты парламенцкі орган не быў прызнаны гэтым Пастаянным камітэтам падчас яго апошніх двух паседжанняў». Адразу пасля гэтых словаў А.Севярын сказаў: «і я болей не збіраюся прызнаваць любыя заяўкі ад 13-га Вярхоўнага Савета на заняцце месца беларускай дэлегацыі ў нашай асамблеі».

На першы погляд, гэтая цытата выглядае як прысуд. Мабыць, праз недакладны пераклад з англійскай на рускую мову Мікалай Чаргінец з Савета Рэспублікі зразумеў гэта так, што ВС-13 больш ніколі запрашаць у ПА АБСЕ не будуць. Насамрэч Адрыян Севярын у наступным сказе (ужо адрэдагаваным і распаўсюджаным прэс-службай ПА АБСЕ) заявіў, што збіраецца «працягваць запрашаць прадстаўнікоў дэмакратычнай апазіцыі прысутнічаць на нашых паседжаннях у якасці назіральнікаў і дзяліцца сваімі поглядамі на сітуацыю ў Беларусі з членамі нашай асамблеі».

Але што ўяўляе беларуская дэмакратычная апазіцыя цяпер, пасля выбараў? Яе прадстаўнікоў больш хвалюе пытанне «хто вінаваты», а не «што рабіць».

Заканчэнне на стар.3

## Тель-Авив объявляет Палестину страной-террористом

В четверг ночью стали известны решения, принятые «узким» кабинетом министров Израиля. Напомним, что заседание кабинета было созвано премьер-министром страны Ариэлем Шароном после убийства израильского министра Зееви. О новых решениях журналистам сообщил секретарь кабинета Гидеон Саар.

Во-первых, Тель-Авив в резкой и безапелляционной форме потребовал от Палестинской народной автономии немедленной выдачи всех виновных и причастных к атаке на Зееви. Напомним, что ответственность за проведение теракта взяла на себя радикальная организация Народный фронт национального освобождения Палестины.

Как сообщает *Reuters*, вторым решением кабинета стало то, что в ближайшее время Палестине может быть «присвоен» статус террористического государства. Со всеми вытекающими отсюда последствиями, в частности, неограниченным вторжением на территории, подвластные Палестинской народной автономии.

## Ліцэістаў цягаюць у міліцыю

Як паведаміла Радыё «Рацыя», 17 кастрычніка ў міліцыю раптам выклікалі некалькі навучэнцаў беларускіх ліцэйскіх гуманітарных класаў, створаных у сярэдняй школе №1 у Светлагорску пасля рэфармавання філіі Гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Праўда, без афіцыйных позваў. Гэта звязанае з правядзеннем моладдзю несанкцыяваных пікетаў з патрабаваннем захаваць ліцэй.

## Суседзі Беларусі набліжаюцца да Еўрасаюза

Услед за Літвой Латвія вырашыла перагледзець пагадненне з нашай краінай пра льготнае перасячэнне мяжы для некаторых катэгорыяў грамадзянаў. Такі захад латвійскага ўрада выкліканы неабходнасцю выканання ўмоваў Еўрасаюза. Але калі Літва мае намер цалкам скасаваць ільготы для жыхароў памежнай зоны, то, паводле латвійскага боку, у жыхароў беларуска-латвійскага памежжа застануцца льготы пры перасячэнні мяжы.

## Новы каньяк

На прадпрыемстве «Мінсккрышталь» запускаецца вытворчасць «крэменевых» каньякоў. Тут задзейнічаная тэхналогія шматразовай фільтрацыі каньячнага спірту разам з гэтым прыродным мінералам, распрацаваная ў НДІ комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

**1505**

# Лукашэнка – саўдзельнік бін Ладэна? або Саўдзельнік злачынства

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

У 1995 годзе Ірак набыў у Беларусі партыю апрацаваных дыяментаў, якія могуць выкарыстоўвацца для вырабу кампанентаў ядзернай зброі і боегаловак ракетаў вялікай дальнасці. У канцы 1998 года Беларусь – у абыход санкцыяў ААН – прадала рэжыму Садама Хусейна чарговую партыю высокатэхналагічнага абсталявання для вырабу аптычных прыбораў.

Развіваючы гэтае супрацоўніцтва, Хусейн павялічыў колькасць супрацоўнікаў амбасады ў Маскве, адказных за стасункі з Беларуссю (перамовы праводзяцца ў сталіцы Расіі, каб ускладніць міжнародны кантроль). У наступным годзе Лукашэнка падпісаў кантракт на мадэрнізацыю іракскіх супрацьпаветраных сістэмаў і супрацьпаветраных ракетаў SA-3.

Продаж узбраенняў краінам, на якія распаўсюджваецца эмбарга ААН, вымагала стварэння ланцуга пасярэднікаў. Беларуская зброя і камплектуючыя да гэтай прадукцыі мусілі перавозіцца праз іярданскі порт Абадан. У Іраку беларускія вайсковыя адмыслоўцы ўсталявалі сваю тэхніку, пакінуўшы яе дагляд кітайскім інжынерам.

У 1998 годзе Перу набыла ў Беларусі 8 МіГаў-29. З іхняй дапамогай Альберта Фухіморы збіраўся рушыць на суседні Эквадор, да якога меў тэрытарыяльныя прэтэнзіі. Каб аддзячыць Лукашэнку, Фухіморы пагадзіўся змясціць у перуанскія банкі грошы, якія Беларусь атрымлівала ад нелегальнага продажу зброі.

## Залатыя інтарэс

Зброя, якую прадавала Беларусь, падсілкоўвала бальшыню ўзброеных канфліктаў у Афрыцы. Ангольская *UNITA* набывала ў Лукашэнкі танкі і сістэмы кіравання агнём «Смерч». Судан аблюбаваў сабе ракетную сістэму «Град», танкі Т-55 і верталёты Мі-24В. Алжыр набыў сабе МіГі. Падчас грамадзянскай вайны ў Руандзе ўжываліся беларускія гарматы. У Марока трапіла 50 танкаў Т-72. Гандлёвыя стасункі з афрыканскімі краінамі, дзе ідуць грамадзянскія войны, прасунулі рэжым Лукашэнкі ў першую дзесятку сусветных экспарцёраў узбраенняў. Ізраільскія і еўрапейскія эксперты сцвярджаюць, што Мінск – найбуйнейшы пастаўшчык зброі як для мусульманскіх экстрэмістаў на Блізкім Усходзе, так і для албанскіх паўстанцаў.

Лукашэнка не стаў бы такім буйным гандляром зброі без дапамогі палітыкаў з дзяржаваў былой Югаславіі. Інтарэс узрос пасля завязання кантактаў з балканскай размеркавальнай сеткай, наладжанай яшчэ ў першай палове 90-х гадоў мінулага стагоддзя, праз былога намесніка міністра абароны Харватыі Ліба Розэса. Прадстаўнікі арганізацыі Розэса, чыя штаб-кватэра знаходзілася ў Загрэбе, знаходзіліся ва ўсіх рэгіёнах, дзе ў той час адбываліся ўзброеныя канфлікты.



## Спецыяльны фонд прэзідэнта

Лукашэнка ахвотна пасярэднічае і ў продажы расійскай вайсковай тэхнікі. Расія, дбаючы пра свой добры імідж краіны, што прытрымліваецца патрабаванняў міжнароднага права, выкарыстоўвае Беларусь для вядзення справаў з краінамі з благой рэпутацыяй. Нядаўна Іран звярнуўся да Лукашэнкі па дапамогу ў справе здабычы «некаторых звышсучасных вайсковых тэхналогіяў». Іранцы ведалі, што Беларусь не мае ў распараджэнні такія тэхналогіі, але спадзяваліся, што людзі прэзідэнта знойдуць іх у Расіі.

У 1997-2000 гадах Беларусь зарабіла на гандлі ўзбраеннямі больш за мільярд долараў. Былыя саюзнікі Лукашэнкі лічаць, што нават гэтая лічба насамрэч заніжаная. Ніхто не дае веры, што МіГі-29 былі прададзеныя Перу толькі за 10 мільёнаў долараў. На думку былога міністра абароны Беларусі Паўла Казлоўскага, за зброю насамрэч было заплачана ў два разы болей. Дадатковыя сродкі ішлі на патаемныя рахункі Лукашэнкі ў «падатковых раях» дзеля ягонага «спецыяльнага фонду» ў Беларусі. Яшчэ некалькі гадоў таму ў фондзе, які не мае права кантраляваць ні адна ўладная структура ў Беларусі, было накоплена больш за мільярд долараў.

Невядома, колькі яшчэ танкаў, самалётаў, гарматаў, гранатаў і аўтаматаў мае на продаж Лукашэнка. Улады ў Мінску ніякім чынам не выказалі згоды на правядзенне інспекцыяў ААН або іншых міжнародных структураў, хоць падпісаная Беларуссю дамова аб скарачэнні звычайных узбраенняў прадугледжвае такую мажлівасць.

**Ян ЧУРЫЛОВІЧ**
***Wprost*, № 986**

# Спадзяванні на Ісуса Хрыста

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Алег Іоў, археолаг Інстытута гісторыі АН Беларусі, які ўзначальвае групу па раскопках, зазначыў, што з запланаваных для раскопак 12-ці ямаў раскапалі восем. На гэтым тыдні плануецца скончыць раскопкі. На працягу 14 гадоў з пачатку першых раскопак тэрыторыя Курапатаў не ахоўвалася, неаднойчы разбуралася марадзёрамі. Усё, што там зробленае, зробленае рукамі грамадскасці. Дзяржава не ўклала ні капейкі, каб ахоўваць тэрыторыю. І вось гэта дае падставы на нейкае дзейства, бо праз дзесятак гадоў там не застанецца нічога, ніводнай непарушанай магілы... Гісторык Ігар Кузняцоў сцвярджаў факт, калі спецслужбамі ў нейкай краіне ўнутр такіх мемарыяльных захаванняў, у глебу, уводзілася спецрэчыва, ад якога раствараецца ўсё. Такое не выключаецца і з Курапатамі. Тым больш, што ўлады Беларусі ніяк не супакояцца з вынішчэннем такіх помнікаў. Гэта тычыцца не толькі Курапатаў, якія сталі сімвалам генацыду, але ўсіх сарака васьмі населеных пунктаў Беларусі, дзе адбываліся дзікія знішчэнні людзей карнікамі НКУС, не лічачы таго, што ў некаторых гарадах іх па некалькі. Напрыклад, у Мінску — акрамя Курапатаў, тэрыторыя дачаў ГПУ (ля Драздоў), дарога на Уручча, парк Чалюскінцаў, Камароўка (20-30 гг.), Цівалі, ст. м. Пушкінская, раён Дражні, Лошыца — другое па колькасці захаванне. Магчыма, што туды вядзе след 4 тысяч чалавек з Заходняй Беларусі, узятых у палон у верасні 1939 года і расстраляных у красавіку 1940 года рашэннем асобнай тройкі НКУС Беларусі.

Такім чынам, Курапаты сталі каменем сутыкнення паміж грамадствам і ўладамі. Цяпер людзі хочуць захаваць памяць продкаў. І гэтае пытанне, на жаль, застаецца нявырашаным.

Другая заява, прадстаўленая журналістам ад групы грамадзянаў, да якой можа далучыцца кожны неабыякавы чалавек, гэта заява ў Пракуратуру РБ. Курапацкая справа ўзнікала ўжо шэсць разоў на такім узроўні, не лічачы іншых разглядаў, з іх тры былі расследаваныя (88-89 гг.;95; 97-99 гг.) — тры дзяржаўныя следствы па адной і той жа справе! Следчая курапацкая справа налічвае звыш 20-ці тамоў.

Тэрыторыя Курапатаў 15 га належыць лясгасу, які клапоціцца толькі пра прарэджванне там дрэваў. У 1995 годзе было прынятае рашэнне пра перадачу Курапатаў Мінгарвыканкаму, вось і трэба давесці гэтае рашэнне да лагічнага завяршэння.

Грамадская ініцыятыва плануе паўдзельнічаць у сходзе жыхароў, што жывуць бліз Курапатаў, каб даведацца іх меркавання. Цяпер жа даводзіцца чакаць сканчэння вынікаў раскопак, а таксама падпісання заявы на следства Пракуратурай РБ па справе Курапатаў.

Іншымі словамі, «справа» Курапатаў завісла ў паветры.

**Ірына ТОЎСЦІК**

# Сёлета Беларусь закупіць каля 1 млн. тон збожжа

Сёлета Беларусь закупіць каля 1 млн. тон збожжа фуражных і цвёрдых гатункаў. Пра гэта паведаміў першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Аляксандр Пракопаў 16 кастрычніка на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

Паводле яго словаў, канкрэтныя пастаўшчыкі збожжа пакуль не вядомыя, аднак ужо з'явіліся прапановы з Украіны. Што тычыцца Казахстана, то, як заявіў Пракопаў, з гэтай краінай у сэнсе закупак збожжа «лепей справы не мець».

Паводле інфармацыі намесніка міністра, у 2001 годзе ўраджай збожжавых пасля першаснай апрацоўкі не перавысіць 5,2 млн. тон (на 5 кастрычніка, як паведамляе міністэрства статыстыкі і аналізу, было выраблена 5 млн. 102,1 тыс. тон збожжа «ў першапачаткова апрыходаваным выглядзе»). Гэта некалькі вышэй за леташні ўраджай (4,9 млн. тон), але намнога ніжэй за план (6 млн.) і патрабаванні прэзідэнта Лукашэнкі (7 млн.), агучаныя ў красавіку на селектарнай нарадзе, прысвечанай веснавой сяўбе.

Першая прычына такога разрыву паміж планамі і рэаліямі, на думку Пракопава, суб'ектыўная. «У многіх кіраўнікоў не хапае пэўнай смеласці сказаць прама тое, што ёсць, назваць лічбу, якая аб'ектыўна адлюстроўвае вынікі іх працы», — сказаў Пракопаў.

Паводле яго словаў, у сельскай гаспадарцы «не выконваюцца ў поўным аб'ёме агратэхнічныя мерапрыемствы, якіх патрабуе біялогія збожжавых».

Яшчэ адна прычына невысокага ўраджаю — вялікія страты збожжа пры ўборцы. «У лепшыя часы ў нас было 30 тыс. камбайнаў, зараз іх 17,5 тыс. Абнаўленне парка ідзе марудна. 10 тыс. камбайнаў ужо выпрацавалі свой тэрмін і падлягаюць спісанню», — сказаў намеснік міністра. Апрача таго, на ўраджайнасць паўплывалі замаразкі, «асабліва ў Брэсцкай і Гомельскай абласцях».



Складаная сітуацыя, па словах намесніка міністра, з сяўбой азімых і восеньскай апрацоўкай глебы. На 16 кастрычніка ўзарана толькі 20 працэнтаў зябліва. Тым не меней, у мінсельгасхарчы разлічваюць атрымаць у 2002 годзе ўраджай у аб'ёме 7 млн. тон.

«Праблема збожжа яшчэ доўга будзе актуальнай. Пастаўленая прэзідэнтам задача збіраць у будучым 10 млн. тон — справа аддаленай перспектывы, столькі мы яшчэ не збіралі», — сказаў Пракопаў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Парада апазіцыі

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Між тым, пытанне легітымнасці Вярхоўнага Савета і ўвогуле Канстытуцыі 1994 года, якое з-за прэзідэнцкіх выбараў адышло на другі план, сёння стае ўсё больш актуальным.

## Легітымныя дагэтуль Шарэцкі, Ціхіня, Чыгір і Ганчар

Відавочна, што праз удзел у выбарах 9 верасня беларуская апазіцыя дэ-факта прызнала Канстытуцыю 1996 года з пашыранымі прэзідэнцкімі паўнамоцтвамі, з новым Цэнтрвыбаркамам імя Лідзіі Ярмошынай, з дэкрэтамі пра дэклараванне даходаў і не толькі, нарэшце, з Выбарчым кодэксам, які Вярхоўны Савет не прымаў.

Аднак дэ-юрэ для апазіцыі ўсё яшчэ дзейнічае Канстытуцыя 1994 года, паводле якой легітымны старшыня легітымнага парламента – гэта Сямён Шарэцкі, легітымны старшыня Канстытуцыйнага суда – Валеры Ціхіня, легітымны прэм'ер-міністр – Міхаіл Чыгір, а легітымны старшыня Цэнтрвыбаркама – Віктар Ганчар.

Менавіта Ганчару, якога незадоўга да ягонага знікнення абралі першым намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета, належала ідэя зрабіць ВС-13 функцыянальным. На жаль, Шарэцкі ў дзень, калі, паводле Канстытуцыі-94, ён мусіў абвесціць сябе выканальнікам абавязкаў прэзідэнта, замест гэтага збег у Літву, стаўшы ўжо другім «няўлоўным Джо» ў гісторыі беларускай апазіцыі.

## Чатыры ўмовы не з боку АБСЕ, а для АБСЕ

Аднак цяпер для адраджэння ВС-13 існуюць больш спрыяльныя ўмовы. Па-першае, нагадаю, што ў канцы лютага 2001 года (паглядзіце вышэй заяву А.Севярына пра студзень) пасол ЗША ў Беларусі Майкл Козак у вялікім інтэрв'ю, якое ён даў мне адразу пасля ўручэння даверчых лістоў Аляксандру Лукашэнку, на пытанне, ці прызнаюць Злучаныя Штаты ВС-13 легітымным парламентам Беларусі, адказаў вельмі коратка: «Так і яшчэ раз так».

Па-другое, у Партугаліі віцэ-спікер ВС Анатоль Лябедзька нагадваў пра рашэнне Канстытуцыйнага суда на чале з В.Ціхінем наконт паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета папярэдняга, 12-га скліканні. ВС-12 быў абраны ў 1990 годзе, і хоць апошняя Канстытуцыя БССР ды першая РБ давалі яму 5-гадовы тэрмін, ён працаваў больш – Лукашэнка крычаў пра «сем гадоў». Калі хто забыўся, дык у траўні 1995 года першыя выбары ў ВС-13 не здолелі стварыць кворум для пачатку працы новага склікання, і А.Лукашэнка хацеў нават распусціць ВС-12. Але Канстытуцыйны суд пацвердзіў тое палажэнне Канстытуцыі-94, дзе гаварылася, што паўнамоцтвы бягучага складу Вярхоўнага Савета сапраўдныя аж да першай сесіі ВС новага склікання. Такім чынам, ВС-13 будзе легітымным парламентам да першай сесіі Вярхоўнага Савета 14-га склікання.

Па-трэцяе, я нікольці не ідэалізую цяперашні стан ВС-13. Аднак варта зазначыць, што сёння – адрозна ад сітуацыі яшчэ да леташніх першых выбараў у палату прадстаўнікоў — большасць дэпутатаў ВС-13 апынулася па-за межамі Авальнае залы Дома ўрада, а да таго ж у другую палату трапілі такія пазбаўленыя крэслаў у лістападзе 1996 года людзі, як Вольга Абрамава і Уладзімір Навасяд. Разам з новым апазіцыянерам Іванам Пашкевічам яны могуць стварыць беларускую «парламенцкую тройку», якая будзе своеасаблівым парламенцёрам паміж ВС-13 і Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу 2-га склікання. Трэба правесці перамовы з неабранымі дэпутатамі першай палаты, якія дагэтуль застаюцца дэпутатамі ВС-13. Магчыма, кола актыўных членаў Вярхоўнага Савета пашырыцца.

Па-чацвёртае, існуе Стамбульская дэкларацыя саміта АБСЕ, якую падпісаў і А.Лукашэнка. Там прызнаюцца «канстытуцыйныя рознагалоссі», якія трэба развязваць шляхам «дыялога». Каму ж весці гэты дыялог з боку апазіцыі, калі не Вярхоўнаму Савету?

## Новыя пасады Ганчарыка і Домаша

Вярхоўны Савет мусіць стаць найвышэйшай радай беларускай апазіцыі замест усялякіх каардынацыйных ды кансультацыйных радаў. Гэтаму будзе спрыяць тое, што дэпутатамі ВС-13 з'яўляюцца такія людзі, як Уладзімір Ганчарык, Сямён Домаш, Сяргей Калякін.

Вярхоўны Савет павінен склікаць чарговую сесію, на якую запрасіць усіх сваіх дэпутатаў – ад цяперашняга сакратара Цэнтрвыбаркама Мікалая Лазавіка да свайго старшыні Сямёна Шарэцкага. Тыя, хто адмовяцца прыбыць на сесію, будуць пазбаўленыя паўнамоцтваў да моманту прыбыцця, і кворум будзе вызначацца ад агульнай колькасці правадзейных членаў ВС-13.

Калі Шарэцкі не вернецца ў Мінск, трэба будзе абраць новага старшыню, якім можа стаць Уладзімір Ганчарык. Ягонымі намеснікамі, акрамя Анатоля Лябедзькі і Генадзя Цярэні, можна выбраць Сямёна Домаша і Сяргея Калякіна. Апазіцыйныя партыі змогуць падтрымліваць розных кіраўнікоў ВС-13, а тыя – блізкія ім партыі. Гэта будзе эрзацам партыйных фракцыяў, але ўся аб'яднаная апазіцыя будзе падтрымліваць увесь Вярхоўны Савет.

Такім чынам ВС-13 і набудзе новыя імідж, імпульс ды імпэт. Ён зможа прымаць пастановы, дзейнічаць ад імя ўсёй апазіцыі ды нават усяго народа, які абраў Вярхоўны Савет у 1995 годзе, патрабаваць перамоваў з дзейнымі ўладамі і выступаць у міжнародных арганізацыях, перш за ўсё абараняючы незалежнасць Беларусі перад пагрозай новага рэферэндуму пра Канстытуцыйны акт Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.

## Апошнія тры месяцы для пераходу на трэцюю Канстытуцыю

Я вельмі люблю казаць, што Беларусь мае тры Канстытуцыі – 1994 года, 1996 года ды іх агульную частку. Цікава, што гэтую трэцюю Канстытуцыю (большую і аднолькавую частку першых дзвюх, дзе гарантуюцца незалежнасць Беларусі, правы і свабоды чалавека) нібыта прызнаюць усе, але яе ж усе фактычна ігнаруюць з прычыны рознагалоссяў вакол зменаў 1996 года.

Менавіта гэтая «трэцяя Канстытуцыя» павінна стаць базай для перамоваў паміж Вярхоўным Саветам і дзейнымі ўладамі. Галоўная задача ВС сёння – абараніць асноўныя канстытуцыйныя палажэнні гэтай агульнай часткі.

Што да іншага, дык «Савет» не такое ўжо нацыянальнае беларускае слова, каб за яго трымацца. Апазіцыя можа пагадзіцца, каб парламент Беларусі называўся Нацыянальным сходам і нават складаўся з дзвюх палатаў, асабліва калі палата прадстаўнікоў будзе абірацца толькі па партыйных спісах, а верхняя будзе палатай тэрытарыяльнага прадстаўніцтва.

Апазіцыі сёння няма чаго губляць — за выняткам часу. А час беларуская апазіцыя марнуе амаль роўна 5 гадоў – з 24 лістапада 1996 года. Вярхоўнаму ж Савету засталося толькі 3-4 месяцы – да студзеньскай сесіі Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы і лютаўскай сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ. Альбо ВС-13 адродзіцца, альбо Еўропа будзе вымушаная прызнаць парламентам Нацыянальны сход (у сувязі з адсутнасцю іншых варыянтаў).

І наступнымі выбарамі, як сказаў у Пэнья-Лонзе кіраўнік групы АБСЕ ў Беларусі Ханс-Георг Вік, будуць выбары ў саюзны парламент.

**Юры СВІРКО,**
***Лісабон—Мінск***

# Война ли это на самом деле?

**Джордж П. ФЛЕТЧЕР, профессор юриспруденции Колумбийского университета**

*Продолжающиеся авианалеты на базы террористов в Афганистане сделали точным использование президентом Бушем слова «война» для описания ответных действий Америки на террористические атаки 11 сентября. Но война ли это на самом деле?*

Те, кто возражает против использования этого слова, говорят, что война не может вестись против рассредоточенного противника, у которого нет флага, нет территории и нет статуса в международном праве. Они предпочитают описывать любое военное действие в этих обстоятельствах как «полицейскую акцию», нацеленную на то, чтобы арестовать подозреваемых и передать их в руки правосудия. Они говорят, что если антитеррористическая кампания на самом деле является войной, то это может быть только символическая кампания, как, например, война с наркотиками.

Эти скептики, возможно, и следуют принципам определенной формальной логики, но ясно также, что международное право сейчас меняется в том направлении, чтобы все коллективные субъекты, совершающие агрессию за пределами своих границ, попадали под юрисдикцию международного права. Суды установили, к примеру, что лидер боснийских сербов Радован Караджич действовал как глава субъекта, эквивалентного государству, и поэтому к нему могут применяться нормы международного права. Его попытка уничтожить местное мусульманское население может по праву быть расценена как геноцид.

Усама бин Ладен и другие лидеры террористических сетей не очень сильно отличаются друг от друга. Они контролируют определенное население, заключают определенные соглашения с государствами, в которых они находят прибежище, и формируют агрессивную внешнюю политику точно так же, как это делают государства. В отличие от партизан в странах вроде Колумбии, они действуют за пределами государственных границ. Они функционируют наподобие государств, и их следует рассматривать как государства в качестве субъекта международного права.

Находится ли Америка в состоянии войны с сетью Аль-Каида и другими связанными с террористами ячейками, в значительной степени зависит от природы преступления, совершенного 11 сентября. В администрации Буша до сих пор не могут решить, является ли это актом войны или преступлением против американского закона. Министр юстиции и генеральный прокурор США Джон Эшкрофт говорит о важности того факта, что бин Ладену, за совершенные им в прошлом террористические акты, было выдвинуто обвинение согласно законам США. Но если это война, то ее следует рассматривать не в рамках законов США, а в соответствии с нормами международного права, и выдвигаемые обвинения – это не поджог и убийство, а геноцид, военные преступления и преступления против человечности.

Было предложено проводить слушание этого дела не в американском или исламском, а в Международном уголовном суде. К сожалению, такого суда еще нет, и когда он начнет свою работу (по иронии судьбы против этого возражали США), его юрисдикция не будет распространяться на преступления, совершенные в прошлом. Однако в мире уже существуют страны – среди них Бельгия, Германия и Канада, – которые могли бы начать судебный процесс и применить при этом принципы международного права к преступлениям, совершенным 11 сентября.

Наличие этих притязаний на универсальность правосудия говорит о том, что вся структура международного уголовного права начала изменяться еще до событий 11 сентября. Важность отдельного государства по мере развития системы международного порядка будет ослабевать. Действующими силами и целями войны станут организации, имеющие армию и функции, подобные тем, что имеют государства. Это означает, что если организованные сети, такие как Хезбаллах или Аль-Каида, нападут на другие страны, то им следует ожидать военный ответ, который примет форму самообороны, соответствующую уставу ООН. Тем не менее, тот факт, что Америка находится в состоянии войны, лишь усиливает важность ее закона о государственной измене: те, кто присоединяется к врагу и оказывает ему помощь и содействие, будут считаться виновными в совершении самого серьезного с точки зрения законодательства США преступления.

Вопрос в том, смогут ли Соединенные Штаты и их союзники сохранить приверженность традиционным принципам Женевской конвенции, предусматривающим защиту гражданских лиц от бедствий войны. Но есть два фактора, которые должны заставить нас задуматься. Если враг не придерживается правил, то у Америки, казалось бы, есть все основания поступать с той же степенью жестокости. Но Америка не должна так поступать. Ей лучше сохранить принципы цивилизованного ведения военных действий, даже если она будет воевать с врагом-варваром, не признающим таких законов.

Второй фактор более коварный. Террористы отказываются носить опознавательную одежду и знаки отличия. Поэтому, разыскивая террористов за границей, американские войска и войска *NATO* столкнутся с проблемой распознавания их среди гражданского населения. Это означает, что западный солдат – по которому сразу видно, что он военный – не сможет легко определить людей, в которых он должен стрелять. Поэтому нельзя исключить случаи, когда он будет убивать отдельных гражданских лиц, добросовестно полагая, что они являются вооруженными и враждебными силами.

Гражданские лица попали в нейтральную зону между официальной, но неспособной защитить силой и неофициальной, но смертельной угрозой. При отсутствии четких различий середина – островок безопасности для гражданских лиц – уже фактически не является безопасным местом.

В соответствии с изменениями в международном праве, нам следует придавать меньше значения таким категориальным понятиям, как государственный и негосударственный, военные и гражданские, а больше полагаться на отношение степени и интенсивности. Главным понятием должно стать соучастие и последующее разделение вины за содеянное террористами. Президент Буш объявил о новом способе мышления, сказав, что все укрывающие террористов государства впредь будут рассматриваться как соучастники террористических действий и будут нести за это ответственность. Государства больше не смогут отказаться от ответственности на основании того, что они не знали, что происходило на их территории. Граждане больше не смогут слагать с себя ответственность на том основании, что они просто были «свидетелями». Вину необходимо будет делить на всех, и некоторые нюансы, несомненно, будут утеряны в пылу сражения.

Все это печально. Нам не остается ничего иного, кроме как оплакивать предусмотренные старыми законами принципы различия, которые сейчас разрушаются под давлением новых реалий. И в нынешней напряженной обстановке это только одна из многих причин для огорчений.

**© Project Syndicate and Institute for Human Sciences**

**ТЭРАРЫЗМ**

## «Мінскі след» сібірскай язвы?

На фота, зьнятым карэспандэнтам агенцтва *Associated Press*, прадстаўлены чэшскі пажарны, апрануты ў адмысловы пластыкавы касцюм. Ён нясе падазроны канверт у герметычным кантэйнеры. Канверт, які тэарэтычна можа зьмяшчаць бактэры сібірскай язвы, патрапіў у офіс кампаніі *Citex*, што ў Карлавых Варах (120 км ад Прагі). Цяпер яго накіроўць для дасьледаваньня ў Дзяржаўны інстытут ядзернай, хімічнай і біялягічнай абароны. У лісьце яўна беларускае паходжаньне – невядомы нам карэспандэнт адправіў яго з Мінска.

У горадзе Люберэц на поўначы Чэхіі два чалавекі трапілі ў шпіталь пасьля таго, як атрымалі падазроныя лісты.

Пасьля пагрозы заражэньня сібірскай язвай у Чэхіі неабходныя захады бясьпекі прынялі і славацкія ўлады. Як паведамляе агенцтва *AP*, славацкі ўраджай падазронай карэспандэнцыі быў куды большы – дзесяткі тысяч лістоў. Праўда, як высьветлілі паліцыя, усе яны былі часткай рэклямнай кампаніі па продажы санітарных ручнікоў.

У сталіцы Літвы Вільнюсе на адрас адной з найбуйнейшых газетаў краіны – *Respublika* – прыйшоў ліст, які ўтрымліваў невядомы белы парашок. На канверце было напісане слова «джыхад», што, як вядома, у перакладзе з арабскай азначае «сьвяшчэнная вайна». У выніку паліцыі давялося эвакуяваць людзей з будынка, дзе месьціцца *Respublika*. Супрацоўнік газеты, які кантактаваў з лістом, быў шпіталізаваны, але сімптомы сьмяротнай хваробы ў яго не праявіліся.




У бліжэйшыя дні чакаецца вынік экспэртызы. Хутчэй за ўсё ён будзе адмоўны, але цяпер амаль усе краіны імкнуцца перастрахавацца. Пасьля таго, як у ЗША некалькі чалавек заразіліся сібірскай язвай, адкрыўшы паштовыя канверты, пачалася сапраўдная антыбактэрыялягічная апэрацыя.

У Чэхіі першым адчуў магчымую небясьпеку прэм'ер-міністр краіны Мілаш Земан. У дзень яго́най сустрэчы з міністрам замежных справаў Ізраіля Шымонам Перэсам на адрас прэм'ерскага офіса прыйшоў ліст, які чамусьці падаўся падазроным супрацоўнікам службы бясьпекі. Мілаш Земан не адкрываў ліста і таму пагрозы для яго жыцьця няма, паведамілі супрацоўнікі прэс-службы кіраўніка ўрада Чэхіі.

Сьлед за земанаўскім лістом чэшскія паштовыя работнікі знайшлі яшчэ 30 падазроных канвертаў. Адным з іх быў і ліст з Мінска.

Дарэчы, як стала вядома, у сераду на Галоўпаштамце Мінска таксама знайшлі падазроны ліст, які адразу накіравалі на кантроль санітарна-эпідэміялягічных службаў краіны. Супрацоўніцы пошты падалося, што ліст зьмяшчаў парашок. Але, па словах галоўнага санітарнага ўрача Беларусі Валерыя Філонава, трывога была беспадстаўнай.

**Міхась КАРПОВІЧ**

**ПОГЛЯД З РАСІІ**

# «Я слишком избаловал свой народ!»

В августе, за месяц до президентских выборов, общий долг по выплате заработной платы рабочим и служащим Белоруссии составлял всего полпроцента месячного фонда зарплаты. И уже через месяц, когда выборы состоялись, долги выросли в 15 раз! Это означает только одно: главный наниматель в республике – государство – оказалось не в состоянии рассчитаться со своими работниками за выполненную работу. За семь лет нахождения у власти Александра Лукашенко такая ситуация создалась впервые. Об этом сообщил на встрече с представителями СМИ заместитель председателя Белорусской Федерации профсоюзов Франц Витко. По мнению большинства экспертов, создавшееся тяжелое положение в белорусской экономике – это результат прошедшей президентской избирательной кампании.

Почему долги удалось погасить перед выборами главы государства? Все объясняется довольно просто. В это время предприятия получали беспрепятственно кредиты, которые использовались для погашения долгов по заработной плате. Кое-где руководители истратили полученные средства, чтобы поднять зарплату до обещанного президентом уровня, эквивалентного 100 долларам США. После окончания избирательной кампании кредиты перестали выдавать, и теперь предприятиям не хватает собственных средств, чтобы удерживать зарплату работникам на том уровне, который был задан. Назначенный недавно премьер-министром Геннадий Новицкий признал, что для исправления тяжелого положения отечественной экономики придется прибегнуть к экстраординарным мерам, чтобы ликвидировать недоимки в бюджете, которые достигли в конце сентября 280 миллиардов белорусских рублей (1 доллар США = 1.500 белорусских рублей).

Долги по зарплате в народном хозяйстве достигли рекордного за последние годы уровня – 22 миллиона долларов США. Поневоле напрашивается вывод, что в ближайшие несколько месяцев напряжение в экономике республики и в социальной сфере сохранится. И может даже вылиться в массовые протесты трудящихся, первой ласточкой которых были последние события на Минском тракторном заводе. Впрочем, глава белорусского государства уже не намерен вмешиваться в исправление этого положения, как это делал прежде неоднократно. На последней встрече с сотрудниками Национальной государственной телерадиокомпании республики Александр Лукашенко заявил буквально следующее: «Я слишком избаловал свой народ!» И как бы поясняя данный тезис, сказал, что ранее он, если узнавал о невыплате или долгах по зарплате, срочно вмешивался. Сейчас это вроде и не царское дело, считает белорусский лидер. Все хотят рынка, отметил он. Вот и получайте его проявления, с некоторой обидой заключил Александр Григорьевич. Позже он признался, что уже и сам не может устоять под натиском стихии, которую отрегулировать ни указами, ни декретами не удается...



У белорусского правительства есть несколько возможностей, чтобы исправить ситуацию с долгами по заработной плате и не доводить до социального взрыва, считают независимые эксперты. Прежде всего, можно привлечь для решения проблемы кредиты Национального банка. Уже просчитаны даже суммы кредита, который потребуется на это. Однако прибегать к такой мере Совет министров республики не спешит, понимая, что это вызовет прежде всего новый виток инфляции, удержать который в рамках или проконтролировать уже не удастся. И второй отрицательный момент – получение кредита Нацбанка приведет к тому, что обещанная президентом перед выборами зарплата, эквивалентная 100 долларам США, вновь уменьшится до неизвестных пределов. И главное предвыборное обещание Александра Лукашенко останется только обещанием... Задача, которую предстоит решить белорусскому правительству, усложняется еще и тем, что в республике 37% предприятий убыточны. И чтобы поддерживать их, как говорят, на плаву, тоже нужны средства.

**Андрей ПОЛЕВОЙ**
**Ng.ru**

# Провал «кодорской акции»

Абхазия в этом году впервые после развала СССР переживала самый настоящий туристический бум. Были заполнены не только ряд курортов. Немало отдыхающих из России приняли частники. Пляжи в Леселидзе, Гантиади, Гаграх, Пицунде в летние месяцы были заполнены. Оживилась торговля. Начали функционировать кафе и шашлычные. Стали курсировать туристические автобусные маршруты с отдыхающими из Сочи и Адлера на озеро Рица и в Ново-Афонский монастырь. Все это позволило оживить экономику республики, в советские времена ориентированную в основном на курортный бизнес и сельское хозяйство. Не исключено, что это стало одной из причин решения руководства Грузии о провокации в Кодорском ущелье. Ведь таким образом непризнанная республика сводила на нет усилия официального Тбилиси задушить ее экономически.

Непосредственно организацией операции вторжения занимался начальник разведки МГБ Грузии Автандил Иоселиани. Его неоднократно видели в селениях, расположенных в Панкисском ущелье, где он набирал волонтеров для похода в Абхазию. Факт вербовки молодежи подтвердил в интервью газете «Алиа» один из кистинских старейшин Алханишвили. По его словам, «представители силовых структур Грузии рекрутировали в Панкиси сотни людей для войны в Абхазии под лозунгом «Абхазию надо вернуть».

Иоселиани вел также и непосредственные переговоры с Гелаевым, обговаривая условия вторжения в Абхазию.

Абхазские военные на основе допросов пленных полагают, что перед объединенным отрядом Гелаева-Шенгелии ставились следующие задачи. На первом этапе – закрепиться в Кодорском ущелье, создав там базу для приема под видом партизан спецподразделений МВД и грузинской армии. На втором – грузинские отряды расширяют зону боевых действий в сторону Сухуми, а отряд Гелаева осуществляет рейд в сторону Сочи для захвата, например, аэропорта «Адлер», какого-нибудь дома отдыха или лечебного учреждения с последующим принуждением российского руководства на переговоры с бандитами.

После того как стало ясно, что бандиты окружены в районе горы Сахарная голова и абхазы костьми лягут, но постараются никого не выпустить, те, кто организовывал эту провокацию, начали паниковать.

Видимо, перспектива разоблачения не очень-то устраивала тех, кто задумывал очередную провокацию. Поэтому в воздухе и появились так называемые неопознанные штурмовики для уничтожения улик.

Что же касается вероятности новой большой войны между Абхазией и Грузией, то ее не будет.

По словам председателя ПАСЕ лорда Рассел-Джонстона, Россия, чьи миротворческие силы находятся в Абхазии, может сыграть свою конструктивную роль в возникшем военном противостоянии между вооруженными силами Грузии и Абхазии. Лорд Рассел-Джонстон считает, что все военные действия в Абхазии должны быть немедленно приостановлены.

**Дмитрий НИКОЛАЕВ**

## Смела ўхвалілі дэкрэт

17 кастрычніка Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі ўхваліла прэзідэнцкі дэкрэт ад 26 ліпеня 2001 года №20 «Аб абавязковым дэклараванні даходаў і маёмасці кандыдата ў прэзідэнты і яго блізкіх сваякоў». Дэкрэт, нагадаем, прадугледжвае абавязковае дэклараванне даходаў і маёмасці жонкі (мужа) кандыдата ў прэзідэнты, яго дзяцей, у тым ліку ўсыноўленых, усынаўляльнікаў, родных братоў, сясцёр, дзеда, бабулі і ўнукаў.

Прыняццю Палатай прадстаўнікоў рашэння наконт гэтага дэкрэта прэзідэнта папярэднічалі працяглыя дэбаты, у якіх выступілі больш за 30 парламентарыяў. Частка дэпутацкага корпуса палічыла, што, паколькі прэзідэнцкія выбары завяршыліся, дэкрэт «сваю справу зрабіў», то яго можна адхіліць. Прыхільнікі прыняцця дакумента выказвалі меркаванне пра тое, што гэтае пытанне з'яўляецца палітычным. Напрыклад, па словах дэпутата Сяргея Касцяна, адмена дэкрэта «створыць падставу падвергнуць сумненню вынікі прэзідэнцкіх выбараў».

У выніку было прынятае рашэнне правесці па гэтым пытанні паіменнае галасаванне. За адмену прэзідэнцкага дэкрэта прагаласавалі 4 дэпутаты, «за» выказаліся 70, 16 — не ўзялі ўдзел у галасаванні. Зараз, згодна з беларускім заканадаўствам, дэпутатам неабходна будзе прывесці ў адпаведнасць з дадзеным дэкрэтам прэзідэнта Выбарчы кодэкс Беларусі.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

ДАСЛЕДАВАННІ

## ДНК святого Луки

Исследуя пробы ДНК, взятые с мощей Святого Луки Евангелиста, группа итальянских ученых пришла к выводу о том, что Лука — не просто один из персонажей новозаветного фольклора, а вполне реальная историческая фигура.

Известно, что в Новом Завете местом рождения Святого Луки считается Антиохия, во времена римлян принадлежавшая Сирии, а в 1939 году отошедшая к Турции. Он родился через 150 лет после рождения Христа и умер в возрасте 84 лет в Тибесе (Греция), где и был погребен. Однако в 1177 году его мощи были перезахоронены в базилике церкви Святой Жюстины в Падуе, куда были доставлены через Константинополь.

Команда генетиков под руководством профессора университета Феррары Гвидо Барбьяни, сопоставила генетическую цепочку мощей со строением генов жителей современной Сирии, Греции и Турции — основными «точками деятельности» святого. Оказалось, что гены святого более всего сходны строением с генетическим материалом сирийцев и чуть менее — с «турецкими генами». Правда, ученые пока не могут сделать однозначных выводов, поскольку до сих пор остается загадкой, не были ли мощи спутника Павла подменены в Константинополе.

**Михаил ЛУКАШЕВИЧ**

## «Бітлз» разам з «Песнярамі»

Учора, 18 кастрычніка, у канцэртавай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі пачаўся III Беларускі фестываль эстрадных аркестраў.

Адкрыўся ён прэм'ерай цікавай музычнай праграмы «У свеце музыкі – «Бітлз» і «Песняры». Выконваць сімфоніі па матывах твораў двух легендарных рокавых гуртоў будзе Дзяржаўны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам маэстра Міхаіла Фінберга.

Квіткоў на бітлоўска-песняроўскі канцэрт на гэтым тыдні было ўжо не купіць. У тым ліку і з тае прычыны, што кошты на іх былі, без перабольшвання, смешныя. Яны ваганіся ад 400 да 800 рублёў – ад траціны да трохі болей паўдолара. З коштамі на выступы расійскіх гастралёраў і блізка не параўнаць. Там самы танны квіток – 5 доляраў, максімальныя ж набліжаюцца да паловы ад сумы сярэдняга заробку па Беларусі.

Танныя квіткі на выступленні беларускіх музычных калектываў – адзін са сродкаў вядзення канкурэнцыі з расійскай культурніцка-музычнай экспансіяй. Да ўсяго, як разважаў Міхаіл Фінберг на прэс-канферэнцыі з нагоды Дня работнікаў культуры, напрыклад, ягоны аркестр не мае права заломваць вялікія кошты, бо ён ёсць бюджэтным калектывам. То бок існуе за грошы падаткаплацельшчыкаў – беларускіх грамадзянаў. Таму, маўляў, няма маральнага права змушаць плаціць іх яшчэ і за дарагія квіткі.

Але галоўнае, здаецца, палягае ўсё ж такі ў тым, каб давесці беларускім слухачам паўнавартаснасць, а то і перавагу сваёй эстрады над расійскай. Пакуль што народ заўзята пакідае не малыя грошы ў кішэнях замежных гастралёраў.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

СПОРТ

## Мірны робіць сенсацыю ў Штутгарце

Аўтарам сенсацыі месяца ў тэнісным свеце, па прызнанні шматлікіх спартыўных інфармагенцтваў, стаў беларус Максім Мірны. У другім крузе тэніснага турніру з серыі «Мастэрз» (больш прэстыжныя толькі турніры «Вялікага шлема») з прызавым фондам амаль у тры мільёны долараў беларус з лікам 4:6, 7:6, 6:4 перамог першую ракетку свету бразільца Густава Куэртэна. Куэртэн быў «пасеяны» на турніры пад нумарам 1 і небеспадстаўна спадзяваўся прынамсі выйсці ў фінал. Але тое, што ён вылеціць у 1/32 фіналу не чакаў ніхто. Усе чакалі сустрэчу Куэртэна ў трэцім крузе з моцным харватам Горанам Іванішавічам, а цяпер з ім згуляе наш Максім Мірны.

Працягвае барацьбу Макс і ў парным разрадзе разам з аўстралійцам С.Столле. У другім крузе напалову наша пара згуляе з іспанцамі Мойяй і Карэтхай. Будзем спадзявацца, што і тут Мірны, якога лічаць адным з найбольш моцных парных ігракоў у свеце, – не падвядзе.

Тым часам агульны стан беларускага тэніса на цяперашні момант такі.



Максім Мірны ў рэйтынзе мацнейшых тэністаў займае 57-мы радок, што значна горш за ягоны мінулагадовы паказчык гэтага ж перыяду. Другі беларус Уладзімір Валчкоў знаходзіцца ў восьмым дзесятку. Яшчэ горш у жанчын, дзе лепшая з беларусак Таццяна Пучак яшчэ знаходзіцца ў першай сотні, а астатнія недзе зусім далёка. Ранейшыя нашы фаварыткі Наташа Зверава і Вольга Барабаншчыкава з тэнісам «завязалі». Першая, таму што «наелася» ім за доўгую кар'еру, а другая таму што захапілася асабістым жыццём і перастала трэніравацца. З розыгрышу кубка Дэвіса беларусы таксама вылецелі, таму можна канстатаваць, што поспех Мірнага — прыемная белая пляма на агульным шэрым фоне. Магчыма яна стане пачаткам нейкага пад'ёму?

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

# Тэатральныя надзеі

*З 12 па 14 кастрычніка ў Гродне прайшоў Другі Рэспубліканскі фестываль творчай тэатральнай моладзі «Надзея-2001». Спектаклі, прывезеныя на фестываль, арганізатарамі якога выступілі міністэрства культуры, Беларускі саюз тэатральных дзеячаў і ўпраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкама, паказваліся на сцэнічных пляцоўках драматычнага і лялечнага гродзенскіх абласных тэатраў.*



Фота Ул.ШЛАПАКА

Фестываль «Надзея» праходзіць раз на два гады. Наступны адбудзецца ў 2003 годзе. Як распавёў начальнік аддзела тэатраў Вадзім Дапкюнас, яго было вырашана праводзіць у Гродне, каб зразнастаіць беларускую фестывальную геаграфію. Гродна доўгі час заставаўся адзіным абласным цэнтрам, які не меў стала прапісанага тут фестывалю.

Адкрыўся фестываль спектаклем Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Чорная панна Нясвіжа» Аляксея Дударава. Апрача «купалаўцаў», удзел у фестывалі таксама ўзялі Коласаўскі тэатр з Віцебска, які прывёз паказаць спектакль «Дакрануцца вуснамі да нябёсаў», Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі з пастаноўкай «Макбет», Дзяржаўны маладзёжны тэатр з «Чортам, выстаўленым аслом», Мінскі драматычны тэатр «Дзе-Я?» са спектаклем «Іванаў» паводле п'есы Чэхава, Мінскі абласны драматычны тэатр з Маладзечна са спектаклем «КІМ» па Дудараву. Гомельскі эксперыментальны маладзёжны тэатр даў «Паляванне пацукоў», Магілёўскі абласны драматычны тэатр паказаў «У адкрытым моры», Гродзенскі абласны драматычны – «Навука кахання», а лялечны – «Сон у летнюю ноч», а таксама тэатры з малых гарадоў — Мазыра і Слоніма. Апрача таго, на фестывалі творчай тэатральнай моладзі былі паказаныя пастаноўка «Мы і яно», прадстаўленая ад Беларускай акадэміі мастацтваў, і антрэпрыза Беларускага фонду развіцця культуры «Больш, чым дождж» рэжысёра Паўла Адамчыкава, дзе занятыя акцёры некалькіх сталічных тэатраў. Менавіта гэтая пастаноўка і ўзяла на фестывалі Гран-пры. Дарэчы, на першай «Надзеі» галоўны прыз дастаўся таксама спектаклю ад Беларускага фонду развіцця культуры – «Туцці-фруцці».

Што да іншых узнагародаў, то сёлета «надзеямі» з уручэннем бронзавых статуэтак і грашовых прэміяў сталі за рэжысуру Наталля Бажава, паставіўшая ў ТЮГу «Сястру маю русалачку» і ўжо згаданы рэжысёр спектакля «Больш, чым дождж». Дарэчы, яму будзе прадастаўленая магчымасць стажыроўкі ў лепшых тэатрах Масквы, а спектакль «Больш, чым дождж» паедзе на Міжнародны тэлевізійна-тэатральны фестываль, які пройдзе ў расійскай сталіцы ў 2002 годзе. За сцэнаграфію ўганараваныя тры выхаванкі Барыса Герлавана.

За лепшыя жаночыя ролі адзначаныя маладыя артысткі: С.Зелянкоўская – Барбара ў «Чорнай панне Нясвіжа», Н.Саўніцкая за спектакль «З Парыжам пакончана» Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек, Г.Сцепанец за ігру ў спектаклях віцебскага тэатра «Лялька» і І.Казакевіч за дыпломныя спектаклі ў Акадэміі мастацтваў. За выкананне лепшых мужчынскіх роляў уганараваныя А.Малчанаў за спектаклі « Трыстан і Ізольда» і «Больш, чым дождж» і І.Дабрук за «Сон у летнюю ноч» Гродзенскага тэатра лялек.

Не былі названыя пераможцы па намінацыях за лепшы монаспектакль і за лепшую лялечную пастаноўку. Цікавыя рэчы ёсць, але яны не адпавядаюць статутным крытэрыям фестывалю. Паводле іх, браць удзел у ім могуць любыя спектаклі і любыя акцёры, але намінавацца на лаўрэацтва «Надзеі» могуць толькі артысты да 28 гадоў і рэжысёры да 35 гадоў. Дарэчы, узяўшы Гран-пры спектакль «Больш, чым дождж» стопрацэнтна адпавядае патрабаванням «маладосці» ( і рэжысёр, і ўсе акцёры).

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Установы задавальнення простых патрэбаў

*Дзевяць з дзесяці менчукоў скажуць вам, што ў беларускай сталіцы замала прыбіральняў. Гэтая праблема простая і важная. Інакш быць не можа: фізіялагічныя патрэбы перад усім. Але і іх задавальненне мусіць мець цывілізаваную форму.*

Зараз у Мінску 49 прыбіральняў, на дадзены момант функцыянуюць 47, яшчэ 2 – на рамонце. Натуральна, для болей як двухмільённага горада паўсотні прыбіральняў – гэта мізэр. Як гарадскія ўлады мяркуюць зліквідаваць нястачу. Як распавёў намеснік дырэктара «Гаррэмаўтадара» Аляксей Кузьміч, у першую чаргу за кошт біятуалетаў. У апошнія некалькі гадоў іх багата з'явілася ў шматлюдных месцах – на аўтазапраўках і асабліва на ўсемажлівых рынках. У Ленінскім раёне сталіцы іх, напрыклад, ужо 15, у Савецкім – 11. Зараз у Мінгарвыканкаме вывучаюць пытанне аб устаноўцы біятуалетаў у цэнтральнай частцы горада. Дагэтуль іх ставілі тут толькі на масавыя святы. Мажліва, гэта будуць біяпрыбіральні італьянскай вытворчасці: зараз адна такая стаіць у скверы каля Белдзяржуніверсітэта. Калі біятуалеты будуць усталяваныя ў цэнтры Мінска, тады ўжо прыйдзе чарга і раёнаў.

На думку А.Кузьміча, самае слушнае вырашэнне напругі з прыбіральнямі ў тым, каб яны меліся ці не ва ўсіх публічных установах: «Прыбіральня павінна працаваць, напрыклад, у любым бары. Каб наведвальнік папіў кавы, узяў, калі трэба, у персанала ключ і схадзіў у прыбіральню». А так, лічыць А.Кузьміч, прыбіральняў зараз не набудуешся, тым больш што і грошай на гэта няма, але вось у раёнах-новабудоўлях яны павінны ўзводзіцца.

Адмысловай статыстыкі, колькі жыхароў і гасцей сталіцы заходзяць у прыбіральні, скажам, за год, няма. Але па назіраннях тых, хто адказвае за аказанне насельніцтву такіх паслугаў, самыя наведвальныя прыбіральні знаходзяцца на вакзале, а на святы – у скверы Янкі Купалы. З 49 прыбіральняў Мінска платныя толькі 11. Уваходныя квіткі сюды каштуюць ад 40 да 200 рублёў, сярэдні кошт – 70 рублёў. Туалетная паслуга лічыцца ў нас сацыяльна-значнай, за мяжой жа кошты на яе ў 5-10 разоў даражэй. Таму ў Мінску няма ніводнай прыбытковай прыбіральні, і па чысціні і камфорце яны саступаюць замежным. Часта няма нават грошай, каб адрамантаваць ці набыць новыя сушылкі. Яны, дарэчы, ламаюцца з побытавай культурай нашых суайчыннікаў кожныя два дні. Пра бясплатныя, куды не завозяць ні паветраасвяжальніка, ні туалетнай паперы, і гаварыць тут не варта. Кожны, хто хоць адзін раз бываў у іх, ведае ўсё сам. Гэта туалет «тыпу сарціра»: цемра, бруд ды смурод. Мякка кажучы.

Сюды працаваць прыбіральшчыцамі ідзе мала хто. Між тым, ім нават малако па паўлітра на дзень за шкодныя ўмовы працы даюць (за тое, што даводзіцца з хлоркай справу мець). Апрача малака, гэта некаторая даплата да заробку і некалькі дадатковых дзён да адпачынку. Яшчэ тым, хто заняты ў прыбіральнях, прадастаўляюць службовыя кватэры.

**Кірэй МАНУЙЛА**



Фота IREX/ProMedia

АРМІЯ

## Казармы чакаюць новых хлопцаў

У Беларусі распачалася чарговая кампанія па прызыве грамадзянаў ва Узброеныя Сілы і іншыя воінскія фарміраванні рэспублікі. Прызыў на тэрміновую ваенную службу пройдзе ў лістападзе-снежні 2001 – студзені 2002 гадоў. Медыцынскае асведчанне грамадзянаў, якія падлягаюць прызыву, распачнецца ўжо ў кастрычніку.

Колькі грамадзянаў будзе накіравана на ўкамплектаванне Узброеных Сілаў і іншых воінскіх фарміраванняў Беларусі, у прэсслужбе ваеннага ведамства сказаць не змаглі. Аднак па вопыце мінулых гадоў можна меркаваць, што ўсяго на тэрміновую службу будуць прызваныя каля 18 тысяч чалавек, у тым ліку ва Узброеныя Сілы – каля 13 тысяч.

Адпраўку ў войскі плануецца ажыццявіць на працягу студзеня 2002 года.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## Монастырский рок

Как выяснилось, служители религиозных культов отнюдь не чужды современной культуре, и музыкальной культуре в частности. Сам папа римский благословляет компакт-диск с католическими мессами в модной аранжировке, а православные монахи начинают играть тяжелый рок.

Причем играть так, что альбом «Я выбираю свободу», записанный иноками монастыря св. Августина и Серафима Саровского в Трикорфо (центральная Греция), — чисто светский, между прочим, — стремительно рвется к вершинам хит-парадов. А видеоклип песни «Анархия и рок» с суровыми монахами, «рубящими» не менее суровый «металл», не сходит с греческих телеэкранов.

**Ольга ДЬЯКОВА**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

 Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1774 Нумар падпісаны ў друк 18/10/2001 (15:00) Наклад – 10.380